Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 2 красавіка 1999 г. № 36 (567) Кошт свабодны

***Шаноўныя чытачы!***

***На працягу некалькіх месяцаў мы атрымоўвалі анкеты, у якіх вы выказалі свае пажаданні па паляпшэнні нашай з вамі газеты. Мы зрабілі высновы і, нягледзячы на няспрыяльны час, вырашылі пачаць рэфармаванне НАВІНАЎ у адпаведнасці з вашымі пажаданнямі.***

***Першы крок па паляпшэнні газеты будзе зроблены ўжо на наступным тыдні – НАВІНЫ набудуць новае аблічча. Мы спадзяемся, што новы знешні выгляд газеты вам спадабаецца і стане такім жа звыклым, як і ранейшы.***

***Рэдакцыя***




**На следующей неделе НАВІНЫ начинают публиковать политические размышления Збигнева БЖЕЗИНСКОГО**

# «Черная дыра»

**разделы из книги «Великая шахматная игра»**

# Вялікдзень

**Дарагія чытачы газеты НАВІНЫ!**

Свята Уваскрашэння Хрыстовага мы святкуем кожны год. Як гаварылі нашыя дзяды і бацькі, нават у самыя цяжкія ваенныя і пасляваенныя яны адзначалі светлае свята Вялікадня.

І мы павінны сёння памятаць, што для вернікаў свята Уваскрашэння Ісуса Хрыста ёсць свята нашай асабістай надзеі. На нашае Уваскрашэнне, на перамогу дабра над злом, справядлівага над несправядлівым і жыцця над смерцю. Хачу пажадаць усім вам сапраўднай духоўнай радасці, каб у штодзённай мітусні не забывалі аб тым падмурку Веры, на якім грунтуецца нашае жыццё. Гэтая вера і ўпэўненасць дапаможа нам перажыць усе часовыя цяжкасці, якія ёсць у Беларусі.

*Пробашч мінскага касцёла Св.Тройцы (св.Роха) на Залатой Горцы ксёндз* **Міхал САПЕЛЬ**



## Ганчар назваў прозвішчы кандыдатаў

**Афіцыйная цырымонія рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты адбылася ў сераду ў Мінску.**

Старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар уручыў пасведчанні кандыдатаў кіраўнікам перадвыбарчых штабоў Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра.

На саму цырымонію сабралася больш за 200 чалавек — палітыкі, журналісты, дыпламаты. Інфармацыя, пададзеная прэс-цэнтрам ЦВКа аб тым, што пасольства Германіі мела намер прысутнічаць на цырымоніі, аказалася недакладнай. У пасольстве паведамілі, што прадстаўнікі еўрапейскіх дыпмісіяў не прысутнічалі на мерапрыемстве.

Члены ЦВК і тэрытарыяльных камісіяў, праверыўшы сапраўднасць сабраных подпісаў, прынялі рашэнне зарэгістраваць абодвух прэтэндэнтаў у якасці афіцыйных кандыдатаў у прэзідэнты.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Арышт кандыдата ў прэзідэнты

***Былы прэм'ер Міхаіл Чыгір, які быў затрыманы ў мінулы аўторак, зараз знаходзіцца ў ізалятары гарадскога ўпраўлення міліцыі ў Дабрамысленскім завулку. Гэта пацвярджае прэс-служба міністэрства ўнутраных справаў.***

Між тым, сёння заканчваецца трохдзённы тэрмін, на працягу якога Чыгіру павінна быць прад'яўленае абвінавачванне, альбо яго трэба адпусціць на волю. Мяркуючы па прапагандысцкай падрыхтоўцы, што пачалася ў афіцыйных СМІ і на БТ з учарашняга дня, улады наўрад ці абяруць другі варыянт. Нездарма кіраўнік упраўлення следчага камітэта МУС Аляксей Лаўрэнюк ужо заявіў па дзяржаўным тэлебачанні, што Міхаіл Чыгір падазраецца ў дачыненні да крадзяжу мільёна долараў з «Белаграпрамбанка». Якім чынам? Палкоўнік Лаўрэнюк расказаў даверлівым беларусам цэлую гісторыю пра «мафіёзі» Чыгіра. Аказваецца, нейкая канадская фірма ўзялася будаваць новы офіс «Белаграпрамбанка», атрымала за гэта 1 мільён долараў, але працу сваю не выканала і грошы не аддае.

Дамова з фірмай заключалася яшчэ ў тыя часы, калі банкам кіраваў Чыгір, таму ён і вінаваты ў тым, што адбылося пазней. Па гэтай жа логіцы ён нясе адказнасць за невяртанне некаторых крэдытаў, выдадзеных банкам яшчэ да 1994 года. Гэтыя справы былі заведзеныя даўно, таму няма ніякіх падставаў казаць, што Чыгір арыштаваны па палітычных матывах, заявіў у эфір палкоўнік Лаўрэнюк.

НАВІНЫ звярнуліся па каментар гэтых заяваў следчага Лаўрынюка да былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі, які чатыры гады таму кіраваў следчым камітэтам МУС. Захаранка назваў абвінавачванні ў бок Чыгіра «нахабнай хлуснёй». Днём раней ён на свае вочы бачыў матэрыялы, якімі валодае следства, і як прафесіянал сцвярджае, што «падставаў для ўзбуджэння крымінальнай справы няма». Паводле Захаранкі, Міхаіл Чыгір не можа адказваць за дзейнасць банка пасля 1994 года, калі ён сышоў з кіраўніцтва. Тым больш ён не можа адказваць за канадскую фірму, дамова з якой была цалкам законная. Паводле словаў Захаранкі, следства нават не разабралася, чаму гэтая фірма адмовілася супрацоўнічаць з «Белаграпрамбанкам». «Асобы, якія незаконна арыштавалі Міхаіла Чыгіра, рана ці позна панясуць пакаранне па артыкуле 174 «незаконнае пазбаўленне волі», — упэўнены Юрый Захаранка.

Тым часам у краіне арышт Міхаіла Чыгіра ўспрымаюць як надзвычайную падзею. Палітычныя партыі і праваабарончыя арганізацыі прымаюць з гэтай нагоды заявы, агульны змест якіх — асуджэнне рэпрэсіяў супраць палітычнага саперніка дзеючага прэзідэнта краіны. «Лукашэнка і яго каманда баяцца Міхаіла Чыгіра. Іх палітыка накіраваная на зрыў прэзідэнцкіх выбараў, на ўвекавечанне аднаасобнай улады Лукашэнкі», — сцвярджаецца, у прыватнасці, у заяве Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада).

Затрыманне беларускімі ўладамі М.Чыгіра не засталося незаўважаным у свеце. Многія краінычлены АБСЕ лічаць затрыманне Чыгіра палітычна афарбаваным дзеяннем, накіраваным супраць апазіцыі. Аб гэтым, паводле інфармацыйнага агенцтва БелаПАН, заявіў у Мінску намеснік кіраўніка групы назіральнікаў АБСЕ Ханс-Петэр Кляйнер. Па апошніх звестках, чакаецца спецыяльная заява дзеючага старшыні АБСЕ К.Волебека, які ў курсе ўсіх падзеяў у Мінску.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО**

# Высокооплачиваемый друг иракского народа

**По сообщению американского журнала *New Yorker*, британские спецслужбы отследили денежный перевод в размере 800.000 долларов США, отправленный в ноябре 1997 года из Ирака Евгению Примакову. Этот факт вызвал опасения, что дружба Саддама Хусейна и российского премьер-министра отнюдь не бескорыстна.**



Как утверждает ветеран журналистских расследований Сеймор Херш, успехи британцев весьма удивили даже высокопоставленных чиновников ЦРУ, давно подозревавших Примакова в получении денежных «приветов» из Ирака. Перевод Примакову был послан заместителем премьер-министра Ирака Тариком Азизом. Факт банковского перевода отслежен и зафиксирован компьютерной системой.

*New Yorker* удивлен лишь тем, что спецслужбам удалось вычислить Примакова как получателя перевода, поскольку навряд ли Евгений Максимович захотел бы получать иракские деньги на свой именной счет. Однако представители ЦРУ утверждают, что источник информации абсолютно надежен. Один из них оценил данное расследование как «очень качественное» и подтвердил тот факт, что подозрения в получении Примаковым «инъекций» из Ирака муссируются в различных спецслужбах уже давно.

Господин Херш ставит в своем отчете все новые и новые вопросы о роли России как главного защитника интересов Саддама Хусейна в мировом процессе, а также высказывает свои сомнения касательно политического будущего российского премьер-министра. Один из основных конкурентов Бориса Ельцина на президентских выборах в России, Примаков завязал дружбу с иракским диктатором еще в далекие 60-е, когда работал обозревателем газеты «Правда» по Ближнему Востоку. Российское посольство в Вашингтоне отрицает всяческие обвинения Примакова в коррупции. Однако публикация в американском журнале не оставила равнодушными другие западные СМИ. «Высокооплачиваемый друг иракского народа» — под таким заголовком появился материал Джеймса Боуна о российском премьере в ирландской газете *Irish Independent*.

*Подготовил* **Александр СИЛИЧ**
*Брюссель*

**АКЦИИ**

Сегодня минская площадь им. Якуба Коласа обещает стать местом главных политических событий в стране. В 15.30 туда придут рабочие столичных предприятий, чтобы выразить свою поддержку Дню единения Беларуси и России. Этот митинг санкционирован Мингорисполкомом, и директора заводов накануне получили распоряжение обеспечить явку рабочих под страхом увольнения. А на 17.30 на это же место планируют придти представители оппозиции, чтобы выразить протест против планов возвращения ядерных ракет в Республику Беларусь. На эту акцию городские власти своего разрешения не дали, разрешив лишь провести митинг на площади Парижской коммуны в 18.30.

# Юлія Чыгір абвясціла вайну Аляксандру Лукашэнку

***Жонка арыштаванага кандыдата ў прэзідэнты адказала на пытанні НАВІНАЎ***

**(Чытайце на стар. 2)**

НАВІНЫ
2 красавіка 1999 г., № 36 (567)

ГАЛОЎНАЯ РАЗМОВА

# Юлія Чыгір абвясціла вайну Аляксандру Лукашэнку

*— Спадарыня Чыгір, калі Міхаіл Чыгір вырашыў стаць прэзідэнтам, вы не адгаворвалі яго?*

— Наадварот, я вітала гэты крок. Столькі гадоў пражыўшы з мужам, я ведаю ягоны характар. Ён не хутка прымае рашэнні, але прыняўшы — не адступае.

*— Яму пагражае шмат дзён, а можа, і гадоў, арышту, страта здароўя ці нават жыцця. І дзеля чаго?*

— Я веру ў іншае, у перамогу. А пакуль так, замест мужа ў мяне на руках папера са следчага камітэта. Магу яе працытаваць: «Паведамляем вам, што ваш муж Чыгір Міхаіл Мікалаевіч 30 сакавіка 1999 г. затрыманы ў адпаведнасці з артыкулам 119 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь па падазрэнні ў злачынстве, прадугледжаным арт. 91, частка 4 Крымінальнага кодэкса. Выконваючы абавязкі начальніка ўпраўлення А.Лаўрэнюк». Гэты дакумент мне ўручыў у аўторак сам спадар Лаўрэнюк. Пры гэтым ён сказаў, што ўсё разумее, але ў яго ёсць дзеці, якіх трэба ўтрымліваць. У якасці доказу свайго «гуманізму» Лаўрэнюк асабістым загадам забараніў зняволенаму Чыгіру спатканні з роднымі.

*— Ці вядома вам, як паводзіў сябе ваш муж у момант затрымання?*

— З ім быў палкоўнік запасу Уладзімір Барадач, якога пратрымалі ў міліцыі тры гадзіны, а потым выпусцілі. Барадач распавядае, што група захопу, якая заблакіравала машыну Чыгіра пад мастом у мікрараёне Уручча, была ўзброеная. Калі мужа вялі ў спецыяльны аўтобус, да галавы яго быў прыстаўлены пісталет. Але і без гэтага Міхаіл не стаў бы траціць энергію на супраціўленне грубай сіле.

*— Чуткі пра загад аб арышце хадзілі некалькі дзён. Чаму ж Чыгір нічога не прадпрымаў, каб пазбегнуць зняволення?*

— А што зробіш? Чыгір усведамляў, што, калі загад ёсць, ад яго не схаваешся. Ён вёў і вядзе адкрытую барацьбу, як сумленны, ні ў чым не вінаваты чалавек. Мы абмяркоўвалі варыянт ад'езду ў Расію, але навошта тады было вяртацца ў Беларусь? Чыгір не такі чалавек, каб саступаць.

*— Няўжо немагчыма было абысціся без самаахвяравання?*

— Справа ў іншым. Міхаіл Мікалаевіч прыйшоў да высновы, што, калі не змагацца, сітуацыя ў краіне не зменіцца. Ён не ставіў у якасці галоўнай мэты стаць прэзідэнтам. Ён паставіў за мэту паказаць усяму свету, што беларускі народ не жадае далей жыць з гэтым прэзідэнтам, ён жадае выбараў. 250 тысяч подпісаў за кандыдатаў, сабраных усяго за два тыдні, гэта даказваюць.



Юлія Чыгір з пасведчаннем кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра.

*— Як вы збіраецеся далей змагацца за свайго мужа?*

— Па-першае, я спадзяюся, што буду змагацца не адна. Я спадзяюся на падтрымку палітычных партыяў, праваабаронцаў, простых людзей. Таксама падключу юрыстаў. Вядома, што Міхаіл Мікалаевіч адмовіўся ад адваката, але мне здаецца, без юрыдычнай дапамогі не абысціся. Я ўжо сустракалася з адвакатамі, а потым, я і сама юрыст.

*— Як вы пракаментуеце абвінавачанні супраць яго?*

— Гэта паклёп. Я ведаю кожны крок свайго мужа і ўпэўненая, што ён ніколі не быў звязаны ні з якімі злачынцамі. У следчых проста не можа быць доказаў, бо ён ні ў чым не вінаваты.

*— Ці былі нейкія правакацыі супраць Чыгіра на працягу апошняга месяца?*

— Былі пагрозы па тэлефоне. Ананімныя. Па беларускім тэлебачанні прагучала, што ён з'ехаў за мяжу. Мы гэта зразумелі як спробу прымусіць нас эміграваць. Шмат правакацыяў было супраць зборшчыкаў подпісаў, каб абвінаваціць у атрыманні грошай і потым сказаць, што штаб Чыгіра працуе на «скрадзеныя крэдыты». Гэта брудны паклёп.

*— Аднак кампанія, якую пасляхова правёў ваш муж, сапраўды патрабавала немалых сродкаў. Адкуль яны?*

— Міхаіл Мікалаевіч добра зарабляў, больш года працаваў прадстаўніком замежнай фірмы. З сакавіка ён звольніўся, заплаціў усе падаткі, у тым ліку розніцу паміж падаткамі, якія трэба плаціць у Расіі і ў нас. Толькі гэтая розніца склала 500 мільёнаў беларускіх рублёў. Усе асабістыя грошы мы аддалі на выбары, Міхаіл Мікалаевіч нават прадаў свой джып, які каштаваў 17 тысяч долараў. З іх аплачаныя ўлёткі, пікеты, пакрытыя выдаткі зборшчыкаў і актывістаў групаў падтрымкі. Шмат прыйшло і ахвяраванняў, у тым ліку і пад выглядам «аліментаў» — нехта прыдумаў такую форму ахвяравання, якая не выклікае падазрэнняў уладаў. Людзі дасылалі па 50, 100 тысяч, хто колькі мог. Гэтыя грошы пайшлі на агульную справу, мы людзям вельмі ўдзячныя.

*— Міхаіл Чыгір кінуў выклік Аляксандру Лукашэнку. Як вы мяркуеце, чаму ж за гэта «аддзячыў» не толькі прэзідэнт, але і лідэр БНФ Зянон Пазьняк?*

— Муж на апошняй прэс-канферэнцыі назваў абвінавачанні Пазьняка ў свой бок «памылкай». Я таксама лічу, што гэта памылка. Не выключана, што нашыя спецслужбы падкінулі Зянону Станіслававічу пэўную інфармацыю, каб справакаваць яго на такія дзеянні, якія ўнясуць раскол у апазіцыю.

*— Вы лічыце, што ваш муж арыштаваны як палітычны канкурэнт. А хіба ён не цікавы ўладам як крыніца інфармацыі аб карупцыі ў кіраўніцтве краіны?*

— Усё магчыма. Міхаіл шмат ведае пра тое, хто і як зарабляў там грошы нячэсным шляхам. Муж адмаўляўся ад удзелу ў любых непрыгожых аперацыях, а потым яму станавілася вядома, што «прапанова» рэалізавалася праз адміністрацыю прэзідэнта. Што гэта, як не карупцыя? Чаму прэзідэнт ствараў пазабюджэтныя фонды? Ён стварыў іх пасля таго, як убачыў, што з прэм'ерам Чыгірам не ўдасца набіваць грашыма сваю «чорную касу».

*— Ці збіраецеся вы абнародаваць нейкія дакументы?*

— Яны сапраўды могуць быць апублікаваныя, я аб гэтым папярэджваю. Калі прэзідэнт лічыць, што, схаваўшы Чыгіра за краты, ён вырашыў праблему — дык ён памыляецца. Наадварот. Са мною яму будзе змагацца куды больш складана.

*— Гэта падобна на пагрозу...*

— Гаворка аб іншым. Людзі павінны адказваць за свае ўчынкі. Калі яны не адказваюць, гэты абавязак перакладаецца на іх дзяцей. Можа прыйсці час, калі дзеці прэзідэнта будуць вымушаныя змяніць сваё прозвішча, бо ім стане сорамна за бацьку. Міхаіл Чыгір заўсёды клапаціўся пра тое, каб не запляміць сваё прозвішча — даўно прыйшоў час падумаць пра гэта і Лукашэнку.

*Гутарыў*
**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

ЭКАНОМІКА

## Цэны акругліліся

**Учора ва ўсіх крамах Беларусі заззялі новыя цэннікі. З 1 красавіка ўсе цэны былі акругленыя да тысячаў.**

Як мы ўжо паведамлялі, пачаўся першы этап вываду з абарачэння банкнотаў па 100, 200 і 500 рублёў. Вы яшчэ можаце разлічыцца гэтымі грашыма ў краме, але толькі калі нябярэцца сума, кратная тысячы, двум, тром і г.д. Пасля 1 чэрвеня, калі вы не паспелі пазбавіцца ад усіх «зубрыкаў», то вам давядзецца здаваць іх у аддзяленне «Беларусбанка».

Што ж датычыць цэнаў, то акругленне праводзілася так: лічбы да 400 рублёў акругляліся да меншага (напрыклад, 10.400 — да 10.000), а 500 рублёў і вышэй — да большага. Найбольш радыкальна падаражэлі запалкі — адразу на трэць: з 1.500 да 2.000.

Дарэчы, паводле дадзеных міністэрства статыстыкі, за першыя тры тыдні сакавіка спажывецкія цэны ў краіне ўзраслі на 11%. Такім чынам, з пачатку года спажывецкія цэны павялічыліся ўжо на 47% працэнтаў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА

## Беларусь паглыбляе самаізаляцыю

Учора на брыфінгу для журналістаў прэс-сакратар міністра замежных справаў Мікалай Барысевіч пералічыў шэраг «адэкватных» мераў, якія прыняло беларускае кіраўніцтва ў адказ на акцыю *NATO* ў Югаславіі. Вырашана прыпыніць дзейнасць пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры Арганізацыі Паўночна-Атлантычнага дагавора, прыпыніць кантакты ў рамках праграмы «Партнёрства дзеля міру», адклікаць у распараджэнне беларускага пасольства ў Бельгіі афіцэра па сувязях у рамках «Праграмы дзеля міру» і спыніць двухбаковыя ваенныя кантакты са Злучанымі Штатамі і іншымі краінамі *NATO*. Фактычна гэтага патрабавалі ў нашай краіне менавіта камуністы і патрыёты.

Нагадаем, што дзякуючы «неадэкватнай» еўрапейскім нормам палітыцы прэзідэнта Лукашэнкі наша краіна пазбавілася статусу спецыяльна запрошанай у Савеце Еўропы. У адрозненне ад іншых краінаў СНД, Беларусь не наладзіла кантакты з Еўрапейскім саюзам. Да гэтага часу не ратыфікаваныя два пагадненні з ЕС — пра партнёрства і супрацоўніцтва, а таксама часовае пагадненне па гандлі. Сапсаваныя адносіны і з міжнародным валютным фондам, невядома, калі прыедзе ў нашую краіну чарговая місія МВФ. Беларусь пакуль застаецца членам АБСЕ. Нягледзячы нават на цяжкае эканамічнае становішча, беларускі ўрад у чарговы раз аб'явіў збор гуманітарнай дапамогі, на гэты раз для Югаславіі. Прынятае рашэнне сфармаваць расійска-беларускую аўтамабільную калону з «гуманітаркай», якая возьме старт у Маскве. Да збору дапамогі будуць падключаныя грамадскія арганізацыі і насельніцтва. Што павязуць у Югаславію з Беларусі, пакуль канкрэтна не вызначана.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Вялікае свята разбавілі палітыкай

Чацвёртага красавіка хрысціяне дзвюх асноўных канфесіяў Беларусі адзначаюць вялікія святы. Каталікі святкуюць Вялікдзень, а ў праваслаўных Вербная нядзеля. Улады ж у лепшых савецкіх атэістычных традыцыях прызначылі людзям у гэты дзень сваё свята пад назваю «Выбары ў мясцовыя саветы».

Дата правядзення гэтых выбараў была абвешчаная больш за два месяцы, таму адразу выклікала негатыўную рэакцыю ў колах каталіцкага духавенства і вернікаў. Праўда, ніякіх афіцыйных заяваў з гэтай нагоды кіраўніцтва каталіцкага касцёла ў Беларусі не рабіла, аднак некаторыя ксяндзы ўсё ж выказаліся, што прызначэнне выбараў на Вялікдзень з'яўляецца абразай рэлігійных пачуццяў многіх беларускіх грамадзянаў. На думку святароў, у гэты дзень людзі павінны ісці спачатку ў храм, а потым святкаваць Уваскрашэнне Хрыстовае ў сямейным коле, а не рабіць адказны патрыятычны выбар.

Адмоўная рэакцыя на правядзенне выбараў 4 красавіка з боку каталікоў, якія складаюць каля 15 працэнтаў насельніцтва, хутка дайшла да вушэй чыноўнікаў з адміністрацыі Лукашэнкі. Літаральна праз некалькі дзён старшыня прэзідэнцкага Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына была выкліканая апраўдвацца. Паводле яе словаў, улады не мелі ніякага злога намеру сарваць каталікам свята. Ярмошына таксама паабяцала, што святочны настрой у гэты дзень у іх не сапсуецца, паколькі на выбарчых участках, як у старыя часы, «будзе граць музыка і працаваць буфеты».

Але нешта не надта верыцца, што ўлады прызначылі гэтыя выбары на хрысціянскія святы не спецыяльна. Няўжо ў Аляксандра Лукашэнкі не знайшлося ніводнага саветніка, які б падказаў прэзідэнту, што галасаванне трэба перанесці на іншы дзень? Тым больш што падобныя правакацыйныя дзеянні ў адносінах да вернікаў Лукашэнка робіць не ўпершыню. Нагадаем, што якраз напярэдадні летошняга Вялікадня прэзідэнт выдаў адыёзны ўказ, які скасаваў статус велікоднага панядзелка і восеньскіх Дзядоў як непрацоўных дзён. І вось цяпер чарговая абраза рэлігійных пачуццяў многіх людзей. Каталіцкія і праваслаўныя вернікі, з якімі мне ўдалася паразмаўляць, дзеяннямі ўладаў абураныя. Старэйшыя людзі прыгадалі, што раней так ставіліся да вернікаў толькі савецкія камуністы. Прызначаць выбары, суботнікі і іншыя прапагандысцкія мерапрыемствы на хрысціянскія святы было адным з элементаў тактыкі атэістычнага выхавання народа савецкай уладай.

Прадстаўнікі духавенства па-рознаму ацанілі рашэнне ўладаў правесці выбары ў святы. Клірык мінскага Свята-Духава Катэдральнага сабора протаіерэй Сергій Гардун лічыць, што галасаванне прызначылі на 4 красавіка проста па недаглядзе чыноўнікаў. Але разам з тым закон прадугледжвае і датэрміновае галасаванне, і сам айцец Сергій мае намер выканаць «грамадзянскі абавязак» у іншы дзень.

А пробашч мінскага касцёла св.Роха на Залатой Горцы ксёндз Міхал Сапель лічыць, што не толькі грамадзяне маюць абавязкі перад дзяржавай, але і наадварот. На думку святара, улады павінны шанаваць рэлігійныя пачуцці вернікаў, але замест гэтага хрысціяне ўжо другі год запар атрымліваюць ад дзяржавы на Вялікдзень не зусім прыемныя «падарункі». Ксёндз Сапель лічыць, што многія каталіцкія вернікі, асабліва ў гарадах, у выбарах, хутчэй за ўсё, удзельнічаць не будуць, паколькі ўсе яны маюць карані на вёсцы і на Вялікдзень дзеці звычайна едуць да сваіх бацькоў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Лишение наивности

## Эссе о кандидатском величии и падении

*«Смешно даже бывает: возьмешь в руки пегого самчика, а он наивно попискивает, как недоросток...»*
**Л.Сабанеев.**
*«Труды по охоте».*

**Александр ДУБРАВИН**

Недавно в нашей стране прошли учения цивильных президентских структур в условиях максимально приближенных к боевым. Матерые бобры из комиссий по выборам в местные советы тренировались вышибать из списков кандидатов в депутаты всех неугодных режиму претендентов — покорных сусликов из партий лояльной ориентации. (Напомню, что все оппозиционные к режиму политические партии отказались от участия в выборах, как недемократических и легализующих антинародную диктатуру). В ряды сусликов умудрились затесаться и не совсем лояльные «лично дорогому товарищу Лукашенко» молоденькие особи из околооппозиционной среды, выступившие как независимые выдвиженцы. Почти всех их, тем не менее, все равно задвинули назад.

Сейчас эти особи жалуются на несправедливость, грустят и утверждают, что потеряли веру в человеческую порядочность. Они ходят по редакциям газет и повествуют. В редакциях их поят чаем и сочувствуют.

Вот какую душераздирающую историю я вычитал в газете «Свободные новости». Один просветленный юноша, вождь подростковой группы ОГП «Гражданский форум» Володя Новосяд решил вопреки здравому смыслу и упрекам приличных людей разбавить варево недемократических выборов в Минске своей демократической персоной. Дескать, в то время как зрелые партийцы ОГП выборы бойкотируют, мы, молодые, берем повышенные обязательства и клянемся... А почему бы и нет, в самом деле? Если уж президентами становятся люди совершенно случайные, то что говорить о местных слугах народа?

Володя построил своих хлопчиков «свиньей» в количестве «порядка 12 человек» и бросил на выдвижение в кандидаты. Трое из них добились регистрации своих инициативных групп. Ура! Был восторг и песни. В отсутствии конкуренции со стороны настоящих политиков шансы на победу каждого юниора в отдельности неизмеримо возрастали.

Свято соблюдая все малейшие требования комиссии, пунктуальный выдвиженец Володя Новосяд — гражданин и демократ — трепетно дышал на артикулы предписаний, принятые в свое время нижней палатой и подписанные вдохновителем этой самой палаты, лукавым нарушителем демократических норм. Он собрал подписи в свою поддержку, аккуратно сложил их стопочкой, положил в папку с тесемками и понес на регистрацию. В ответ на этот решительный, недюжинный шаг демократа черствые бюрократы из комиссии по выборам равнодушно спросили у претендента в кандидаты:

— Вам как отказать, сразу или по закону?

— А сразу... это как? — спросил юниор упавшим голосом.

— Очень просто, — сказали бессердечные люди. — Во-о-он, как тому товарищу...

— Какраз в это время, мощно уплотняя воздух перед собой, пролетал мимо окон, как фанера над Парижем, известный в стране публицист-пушкиновед со всеми своими собранными в Гродно голосами в поддержку.

— Хорошо летит! — сказали бюрократы, любуясь. — Хотите так?

Володя категорически не хотел. Ведь он уже разучил перед зеркалом инаугурационную речь депутата Свислочского округа. Нет! Нет и нет!

— Давайте по закону! А не то — в суд подам!

— Напрасно вы, товарищ, кочевряжитесь, — сказал ему на это мудрый председатель городской комиссии. — Мы вас и в суде уроем. Учтите, что одна подпись у вас не подлинная. И даже наоборот, сфальсифицированная. Я бы на вашем месте сидел бы и не дергался.

При этом на лице его блуждала недобрая улыбка. Мол, суд у нас справедливый, как бы последствий не было! Гляди, востроглазый!

Но смелый хлопчик все равно пошел биться за правду, ринулся в самую гущу схватки! Он пошел в суд, как на штурм Измаила, сложив все свои хрупкие надежды на справедливость в папку с вензелями и тесемками. И здесь, в помещении суда, при свете дня и свидетелях свершилось вопиющее! Суд почему-то все свое внимание обратил на дела претендента и осудил его недоработки в качестве самовыдвиженца.

Состоялось публичное и циничное (одним махом!) лишение молодого человека наивности. Уже на следующий день он стал настоящим мужчиной и навсегда потерял способность лепетать и восторгаться. Он прозрел: организаторы выборов, оказывается, его просто использовали. Они на нем потренировались. Теперь хлопчик солидно думает, что правы были настоящие политики и выборы эти очень несправедливые. Более того, он считает, что люди в комиссиях бездушные, черствые, а одна старушка среди них даже не помнит своего имени. Без кандидата в депутаты Новосяда ничего не получится и у других претендентов. И во время голосования будут сплошные подтасовки, потому что ему теперь стало известно многое. И явка избирателей будет низкая. И все в конце концов прозреют. Страшная месть обрушилась теперь на головы лицемеров: обо всем случившемся хлопчик поведал газете. Открыл ей глаза на то, что твердят не первый месяц все оппозиционные политики и даже лидер ЛДПБ.

Какая же мораль, спросит меня читатель? Что хочет автор обобщить и осветить на этом отдельном примере неудачливого претендента на кандидаты в кандидаты? А никакой морали! Зачем она хлопчикам «порядка 12 человек» из подготовительной группы «Гражданский форум»? У них все дешево и сердито. Надо — попользуются именем и возможностями ОГП. Надо — выкажут неподдельную лояльность президенту. Глазом не моргнут. И все это с наивным видом пегого самчика. Чтобы не обижались принципиальные люди. Вот и выходит: взрослые партийцы растят-растят из них настоящих демократов, а на выходе все равно получают обыкновенных конформистов-комсомольцев. Несгибаемых прагматиков: и нашим, как говорится, и вашим. А не так, между прочим, как в избирательных комиссиях: только их ним!

Как, однако, режим прогнил!

АНАЛІЗ

# Наменклатура пачынае гульню

Апошняя выбарчая кампанія ў мясцовыя саветы значна адрозніваецца ад усіх папярэдніх перш за ўсё тым, што наменклатура прачнулася нарэшце ад спячкі і нястройнымі шэрагамі рушыла ў авангард барацьбы за карыта. Карыта маленькае, наліта ў яго ўсяго нічога, але ж есці трэба.

Змяненне адносінаў наменклатуры да прадстаўнічай улады і да выбараў, у прыватнасці, упершыню было заўважанае паўгода назад. Гэтыя змены, у тым ліку і з боку адміністрацыі, адбыліся пад уплывам некалькіх фактараў, але павышэнне гэтага інтарэсе відавочнае.

Адміністрацыю мясцовыя выбары цікавяць, перш за ўсе, з гаспадарскага боку, маўляў, каб «дома парадак быў» і каб прэзідэнт ведаў, што там да чаго і хто за кага. А па-другое, выбары разглядаюцца як рэпетыцыя, як трэнінг камунікацыйнай сістэмы.

### Непажаданых «вырубілі»

Падрыхтоўка да выбараў пачалася задоўга да іх афіцыйнага аб'яўлення. У лютым, скажам так, перыяд адпрацоўваліся розныя мадэлі паводзінаў, спосабаў трансляцыі, збору і апрацоўкі інфармацыі, будаваліся новыя сістэмы камунікацыі, прыстасоўваліся і рэанімаваліся былыя, на другасных дзеяннях «абкатваліся» і мяняліся кадры.

Карацей кажучы, «вырубалі» непажаданых, рыхтаваліся грунтоўна, як заўсёды. Але не ўлічылі адну сур'ёзную акалічнасць, якая (забягаючы наперад) праявіцца толькі на саміх выбарах: наменклатура сёння не такая маналітная, якой была 10 гадоў назад. Акрамя рознага разумення культурных ды іншых каштоўнасцяў паміж «партыйцамі» і «камсамольцамі» (канфлікт бацькоў і дзяцей, хоць дзецям па 40-50 гадкоў), абазначыліся міжгрупавыя супярэчнасці, народжаныя барацьбой за прэферэнцыі (рынкі збыту, бюджэтныя грошы, уласнасць, гаранты бяспекі і г. д.). Відавочнымі сталі супярэчнасці паміж рэгіянальнымі групоўкамі ў барацьбе за ўладныя рэсурсы.

Да таго ж, на наменклатуру ўсе больш цісні аказваюць так званыя «маргіналы», якія патрабуюць перадзелу ўладных рэсурсаў на сваю карысць.

Карацей, праблемаў — воз. Таму, каб не ўскладняць сабе жыццё, палічылі за лепшае выдаліць з поля ўсю публічную апазіцыю і ўсіх тых, хто лічыць сябе незалежным. Як наступства, з'явілася заява шасці апазіцыйных партыяў аб няўдзеле ў выбарах. Акрамя афіцыйнай апазіцыі, існуе мноства груповак, якія знаходзяцца фактычна ў апазіцыі да ўлады, але не маюць кантактаў з апазіцыяй афіцыйнай.

Сёння гэта не вельмі шматлікая ў плане масавасці, але вельмі дынамічная з пункту гледжання развіцця групоўка. Акрамя таго, частка сацыял-дэмакратаў вылучалася шляхам збору подпісаў і як кандыдаты ад арганізацыяў. Ішлі на выбары і прадстаўнікі ПКБ, якія пры пэўным раскладзе маглі добра «папіць крыві» ўладам. Але тут улады праявілі характар і без усякіх цырымоніяў распачалі рэпрэсіі: у выніку ўсе, хто быў ім не даспадобы, не прайшоў рэгістрацыі.

Але і пасля селекцыі, як паказвае аналіз, за месцы ў Віцебскім абласным савеце барацьбу паміж сабой будуць весці па меншай меры 6-7 буйных эканамічных груповак.

### Хоць землятрусаў не было

У апошні час значна пашырыўся працэс, які можна назваць ратацыяй элітаў. Ён праяўляецца ў актывізацыі кантактаў эканамічных груповак з палітычнымі, у тым ліку з афіцыйна апазіцыйнымі. Гэта робіцца таму, што ў першых няма людзей, здольных да работы, у другіх — грошай. Па многіх пазіцыях кантакты знойдзеныя, і ўжо сёння палітычныя групоўкі ўключыліся ў перадвыбарчую «прапаганду і агітацыю».

Вынікі вылучэння і рэгістрацыі падсумоўваліся, дзе-нідзе публікаваліся. А між тым вельмі была патрэбная дзея пад назвай «агітацыя», асабліва таму, што рэзка, у 2 разы, быў падняты парог яўкі выбаршчыкаў адноснаранейшага. Бо, як паказалі давыбары ў Віцебску і вобласці ў 1997 годзе (а гэта былі фактычна выбары, паколькі частка органаў прадстаўнічай улады тады наогул не была сфарміраваная з-за



надзвычай нізкай яўкі на «асноўных» выбарах), у многіх акругах выбары не адбыліся.

У Віцебску былі ўчасткі (у якасці ўнікальнага прыкладу), дзе яўка складала 15 або нават 3 працэнты. У так званых «спальных раёнах» актыўнасць выбаршчыкаў была на ўзроўні 15-18 працэнтаў, дзе-нідзе — да 20 у залежнасці ад «канфігурацыі» раёна і структуры насельніцтва.

### Сакрэтнае даследаванне

Па звестках мясцовай прэсы, за апошнія месяцы ў Віцебскай вобласці прававаахоўнымі органамі канфіскавана наркотыкаў на суму, параўнальную з гарадскім бюджэтам. Усё часцей затрымліваюць фальшываманетчыкаў. А капітал, вядома, імкнецца да экспансіі, да пашырэння і падзелу сфераў уплыву. У гэтай сітуацыі палітычныя партыі, аслабленыя як барацьбой з рэжымам, так і ўнутранымі сваркамі, адмовіліся ад барацьбы, далі шанец дэструктыўным сілам і наменклатуры.

Сёння сітуацыя ў эканоміцы і сацыяльнай сферы пагоршылася ва ўсіх кампанентах: узровень жыцця, бяспекі, задаволенасці ўласным становішчам. Гэтыя з'явы больш за ўсё закранулі моладзь і людзей вышэй сярэдняга ўзросту — аплот і надзею ўладаў. Мо таму замеры настрою выбаршчыкаў, зробленыя на тых жа ўчастках, што і паўтара года назад, паказваюць: узровень чакання амаль не змяніўся. Усе паказчыкі знаходзяцца ў рамках статыстычнай пагрэшнасці і складаюць (у залежнасці ад участка) 12-18%. (Дадзеныя агенцтва рэгіянальнага развіцця.)

Аднак улады не губляюць аптымізму. Мала таго, апытанне, якое праводзілася па іх замове, па нейкіх прычынах сцвярджае, што актыўнасць выбаршчыкаў складзе 40%. Праўда, як заўсёды гэтае даследаванне грамадскай думкі выконвалася напаўсакрэтна.

### Якая мэта – такія і сродкі

У адрозненне ад іншых палітычных сілаў, наменклатура звычайна робіць з уласных падстаў патрэбныя вывады. Яна прывыкла да дакладна вызначаных мэтаў, акрэсленых трыма-пяццю словамі і дасягаемых з дапамогай двух-трох хадоў. У нашым выпадку: правесці выбары, выбары выйграць, устанавіць над саветамі поўны кантроль. Падрыхтоўка пачалася год назад: «с чувством, с толком, с расстановкой» і нават з нейкім, заўважым, густам. У прыватнасці, БПСМ, якога з Мінска прапаноўвалі ў якасці камунікацыйнай групы, «адмялі» адразу і без абмеркаванняў. Самі ўсё рабілі.

На момант пачатку агітацыі грошы на выбары яшчэ не выдзяляліся. Ну і што? Тым больш, што палітычныя партыі ў выбарах удзелу не прымаюць. Разумеюць усе, што і па статусе, і па сваёй ролі саветы з'яўляюцца структурамі фармальнымі, жабрацкімі і нічога не вырашаюць. Таму яны могуць разглядацца як месцы для стажыроўкі моладзі, на якіх можна прагледзець і «пракруціць» кадры.

Усё, што наменклатура сёння робіць, робіцца з прыцэлам на будучыню. І бадай адзінае, што можа збіць ёй прыцэл, — гэта пагроза прыняцця закона аб люстрацыі. Але пры той колькасці спецслужбаў, якія сёння круцяцца ў Беларусі, зрабіць гэта больш складана, чым нават адлучыць ад улады самога прэзідэнта. Згадваючы пра гэта, наменклатура без асаблівага сумневу пачала фармаваць сваю ўласную камунікацыйную сістэму, прыстасоўваючы пад яе ўсё што можна: кінасетку на вёсцы, мясцовых культурнікаў, пасялковых старастаў, старэйшых па вуліцах і вёсках, настаўнікаў і рэанімаваных парторгаў.

### Для іх гэта проста

Сістэма застаецца сістэмай. Таму больш бяруць не ўменнем, а колькасцю. Возьмем, напрыклад, Чыгуначны раён Віцебска. Пражывае тут каля 56 тысяч жыхароў, у тым ліку 37,5 тысяч выбаршчыкаў, таму тут створаны 2 акругі па выбарах у абласны і 10 — у гарадскі савет. Усяго ў раёне 23 участкі. У сярэднім на тэрыторыі ўчастка пражывае каля 1.600 выбаршчыкаў

Для перамогі дастаткова, каб на ўчастак прыйшла і прагаласавала тысяча выбаршчыкаў. Гэтую задачу павінны вырашыць інфармацыйныя групы па 10-12 чалавек кожная. У групах, само сабой, — намеснікі кіраўнікоў прадпрыемстваў па прапагандзе, кожная мае памочнікаў з БПСМ, «дабравольна» далучаных настаўнікаў, выкладчыкаў ВНУ і тэхнікумаў, участковых тэрапеўтаў ды іншых уплывовых сярод насельніцтва асобаў.

Пры гэтым групы, маючы поўны доступ да СМІ, не плацяць ні за сувязь, ні за офісы, ні за арэнду залаў, ні за што іншае, затое працуюць у свой рабочы час. А калі «звышурочна», дык яшчэ і адгулы атрымаюць. Заплаціць за ўсё казна ды тыя ж прадпрыемствы. Ці, дакладней, выбаршчыкі. За тую ўладу, якую вырашана для іх выбраць.

За 4 тыдні перадвыбарчай агітацыі такая група разоў 10 уздоўж і ўпоперак «перапахала» ўвесь участак. Тым больш, што існуюць распараджэнні «всемерно способствовать и содействовать», дадзеныя кіраўнікам усіх узроўняў.

Але і гэтага мала. За 5 дзён папярэдняга галасавання кожны член такой групы павінен прывесці на ўчастак 100 чалавек, па 20 чалавек у дзень. У рэзерве — вынасныя скрынкі, ваенныя гарнізоны, інтэрнаты. Вось і атрымоўваецца, што задача зусім простая. Тым больш, што агітацыйны пыл атрымае матэрыяльнае падмацаванне ў выглядзе выкладзеных на прылаўкі танных харчоў ды шырпатрэбу, штоназапашваюць, як вядома з афіцыйных СМІ, ужо з сярэдзіны студзеня. Справа звычайная, наменклатурная: абдурыць усіх за кошт іх жа ўсіх.

Можна смела сказаць: гэтыя выбары будуць чым заўгодна, толькі не выбарамі. Таму створаныя гэткім спосабам «саветы» не будуць прызнаныя знешнімі партнёрамі і ўдзельнікамі палітычнага працэсу ў самой Беларусі. Не будуць мець ніякай вагі нават у вачах іх творцаў — наменклатуры.

**Я.ВЕЖНАВЕЦ, К.СКУРАТОВІЧ**

# Все в компромиссе

**Вот уже второй месяц в стране действует Координационная Рада демократических сил Беларуси. В состав Рады вошли семь наиболее крупных и популярных в республике политических организаций—Объединенная Гражданская партия, Белорусская социал-демократическая партия (Народная Грамада), гражданская инициатива Хартия-97, Белорусский Конгресс Демократических Профсоюзов, Ассамблея НГО, Белорусский Народный Фронт. О деятельности этого еще «молодого», но наиболее значительного белорусского оппозиционного альянса рассказывает председательствующий на собраниях Координационной Рады, лидер БСДП (Народная Грамада) Николай Статкевич:**



*— Общеизвестно, что политическим партиям трудно прийти к общему мнению... Как вашей партии удается сосуществовать с БНФ, ОГП и другими политическими силами демократической ориентации?*

— Партиям трудно найти компромисс, если в рамках демократического общества они борются за власть. Но сейчас мы все вместе боремся за демократическое общество. А когда интересы совпадают — компромисс найти легко.

*— Возникают ли проблемы в связи с тем, что не все белорусские партии вошли в состав Координационной Рады демократических сил?*

— Конечно! Начну с того, что в Беларуси зарегистрировано 27 партий. Большинство из них сегодня существуют только в воображении их лидеров и в документах минюста. Быть в Координационной Раде многие посчитали престижным, и, конечно, было много требований включить представителей подобных партий в состав КР. Но согласно решению Конгресса демократических сил, круг организаций, вошедших в Раду, был сужен. Во-первых, с семью организациями еще можно вести дискуссию и принимать решения. Во-вторых, в Беларуси не так уж много партий, способных не только декларировать, но и реализовывать свои решения.

*— Какую же роль при создании Рады стал играть Консультативный Совет политических партий, существующий с конца 1997 года?*

— Эта структура сохранилась и поныне. Мы регулярно встречаемся для консультаций. Но, к сожалению, консультаций не достаточно, — необходима координация действий. А при более тесном сотрудничестве круг действующих лиц сужается. Например, Партия Коммунистов Белорусская не готова координировать действия с нами, так как в отношении суверенитета у коммунистов особая позиция. Между тем, я думаю, эти два механизма будут существовать параллельно. Координационная Рада — это демократические партии, а Консультативный Совет — это все партии, которые не пошли в услужение к режиму.

*— Приближается день выборов депутатов в местные советы... Какова позиция Рады в отношении этой акции?*

— Нами было принято решение не участвовать в голосовании, так как эти выборы абсолютно безальтернативны. Наша задача сегодня донести это мнение до широких слоев населения и предпринять все возможные меры, чтобы не дать властям сфальсифицировать явку на избирательные участки. Мы считаем, что, если значительная часть общества, которой не позволили иметь своих кандидатов в депутаты, не придет на выборы и «проголосует ногами» — то выборы не состоятся. И тогда властям все-таки придется дать оппозиции возможность участвовать в выборах. В противном случае, правительство так и не подтвердит легитимность местных органов власти.

*— И каким образом вы доносите до населения ваше мнение?*

— Мы проводим кампании в двадцати крупных городах республики. Кроме того, отделения демократических партий на местах создают региональные координационные советы демократических сил. Есть такие инициативы в Гродненской, Гомельской, Брестской областях и, я думаю, опираясь на них, мы сможем развернуть более широкую и результативную деятельность.

**Наталья РАДИНА**

**Алесь АНЦІПЕНКА**

# Тэатр аднаго палітыка

## *Папулізм як тэхналёгія тэатралізаванага дзеяньня*

Як пасьпяховая палітычная тэхналёгія папулізм ужываецца пераважна ў *трансфармацыйных і крызысных* грамадзтвах і абапіраецца на масавую сьвядомасьць шэрагу сацыяльных груповак, якія аказваюцца альбо змаргіналізаванымі, альбо дэзарыентаванымі ў выніку даволі рэзкіх і нечаканых для іх сацыяльных зьменаў. А таму, як правіла, гэтыя групоўкі маюць даволі цьмяныя і хаатычныя ўяўленьні адносна таго, што адбываецца ў грамадзтве.

У той жа самы час пагаршэньне эканамічнага стану і адпаведна пачуцьцё незадавальненьня правакуюць іх да дзеяньня, якое, аднак, не базуецца на якой-небудзь акрэсьленай ідэі ці ідэалёгіі.

Рэальная магчымасьць дзеяньня ўзьнікае разам са стварэньнем новых (хай сабе і не цалкам, але ўсё ж такі, дэмакратычных) выбарчых сыстэмаў і мэханізмаў функцыянаваньня палітычнай улады.

У гэтых умовах папулізм выяўляецца перадусім у палітычнай запатрабаванасьці названых вышэй сацыяльных груповак, і менавіта праз апэляцыю да іх ён ператвараецца ў рэальную тэхналёгію здабыцьця і ўтрыманьня палітычнай улады. Папулісцкая праграма дзеяньня мусіць пры гэтым абапірацца на найпрасьцейшы дыялёг, які найчасьцей кваліфікуецца як «дыялёг з народам». А істотнай характарыстыкай яго зьяўляецца тое, што ён базуецца не на рацыянальным дыскурсе, а на эмацыйнай заангажаванасьці ўсіх яго ўдзельнікаў.

*

**Драматызацыя** палітычнага дзеяньня і дыялёгу ёсьць галоўным прыёмам папулісцкай тэхналёгіі. Ад таго моманту палітык выступае перад «народам» не як прадстаўнік якой-небудзь палітычнай партыі ці блёку, а **як адзін з тых**, да каго ён апэлюе. Посьпех альбо правал ужываньня папулісцкай тэхналёгіі будзе залежаць ад ягонага майстэрства стварыць «яркі і запамінальны вобраз», а таксама ад уменьня навязаць сваю гульню канкурэнтам. У любым выпадку гэта мусіць быць вобраз «простага» палітыка («кроў ад крыві, костка ад косткі народу»). Гэта — «наш просты хлопец», які «ведае ўсе нашыя беды».

Адным з драматургічных прыёмаў разгортваньня гэтага вобразу зьяўляецца канфрантацыйнае стаўленьне да былых альбо дзеючых у гэтым часе палітыкаў і палітычных элітаў. І ў гэтым сэнсе папулізм таксама ёсьць тэатральным дзеяньнем ці палітычным пэрфомансам.

У перспэктыве такога дзеяньня «народ» ператвараецца ў гледачоў, публічная сфэра — у тэатральную глядзельную залю, а палітыкі — у актораў. У выпадку, калі такая трансфармацыя ўдаецца, ролі ўсіх канкурэнтаў папуліста перадвызначаныя. Тыя з ягоных канкурэнтаў, хто наўгул не прымае навязаныя правілы гульні, аказваюцца альбо па-за сцэнай, альбо сыходзяць з яе, згуляўшы ролю, сэнс якой палягае ў развіцьці самога тэатралізаванага палітычнага дзеяньня.

Ад гэтага часу «галоўны герой» выходзіць на сцэну не для палітычных дэбатаў датычна рэальных праблемаў грамадзтва, а дзеля таго, каб здабыць посьпех, «сарваць апладысменты» (г. зн.сабраць галасы будучых выбаршчыкаў). А дзеля гэтага ён мусіць захапіць публіку, прыцягнуць да сябе ўвагу, урэшце рэшт, выклікаць у яе эфэкт эмацыйнага ці нават эстэтычнага задавальненьня. Чым больш моцныя перажываньні мае пры гэтым публіка, тым больш пасьпахова разгортваецца спэктакль. «Плакаў узрушаны электарат...», — так каментуе рэжысёр Ю. Хашчавацкі адну са сцэнаў наведваньня кандыдатам у прэзыдэнты А. Лукашэнкам свайго роднага Шклова ў фільме «Звычайны прэзыдэнт».

Як піша францускі дасьледчык Жан-Марк Феры, у дадзеным выпадку мы маем справу з «вылучэнай эстэтыкай прэзэнтаваньня самога сябе, калі кожны мусіць «праявіць сябе», каб дамагчыся славы».

*

**Перыпэтыі** альбо рэзкія і нечаканыя зьмены ў ходзе падзеяў — надзвычай важны элемент папулісцкай тэхналёгіі. Праз іх «галоўны герой» здабывае калі і не славу, дык, прынамсі, шырокую вядомасьць. А таму асабліва важнымі яны зьяўляюцца падчас выбарчых кампаніяў. Пра перыпэтыі мусіць паклапаціцца альбо сам «герой», альбо нехта з ягонай каманды. Найлепш, калі гэта будзе замах на жыцьцё прэтэндэнта на ўладу (прыкладам, вядомы «стрэл пад Лёзна», зроблены ў аўтамабіль будучага беларускага прэзыдэнта).

Перыпэтыі істотна ажыўляюць палітычнае дзеяньне і робяць яго ня толькі відовішчным, але і вельмі пераканальным. «Герой», які з посьпехам пераадольвае ўсе небясьпечныя выпрабаваньні лёсу, мае ўсе шанцы стацца кумірам публікі. Змучаныя рэальным жыцьцём «гледачы», надзяляюць яго найвышэйшымі якасьцямі; ускладаюць на яго ўсе свае надзеі, і герой ператвараецца ва ўлюбёнца публікі. І гэта ёсьць час трыумфу, момант найвышэйшага задавальненьня публікі сваім героем, а героя публікай. («Мяне абраў беларускі народ, **самы мудры народ** на нашай плянэце». (А. Лукашэнка).

Рэальная ўлада, якую дастае герой, — гэта ўжо новы сюжэт для новага палітычнага дзеяньня. «Герой» яўна перапоўнены здабытым посьпехам і пачынае перагульваць самога сябе. Ён гуляе сваю новую ролю самазабыўна і наводліў: «Я і пленумы ЦК КПСС рыхтаваў, нягледзячы на сваю маладосьць... Мяне Гарбачоў часта запрашаў у Маскву...Часта я браў удзел у паседжаньнях ураду ў Савецкім Саюзе, інакш кажучы, я быў вядомым чалавекам у свой час, толькі маладым яшчэ» (А. Лукашэнка). Самая гульня дастаўляе актору незвычайную асалоду. Захоплены сваёй гульнёй, ён нават можа часова губляць адчуваньне мяжы, што аддзяляе рэчаіснасьць ад тэатральнай умоўнасьці папулісцкага дзеяньня.



Здабыцьцё рэальнай улады, і гэта цалкам натуральна, вядзе да зьмены дэкарацыяў. Паляпшаецца асьвятленьне сцэны, акустыка глядзельнай залі. Перарабляецца і сама сцэна, якая цяпер ужо ўзвышаецца над гледачамі.

*

Ад гэтага часу тэатр палітычнага дзеяньня пачынае трансфармавацца ў тэатр **рэальнага жыцьця**: «паляпшэньне акустыкі глядзельнай залы і асьвятленьня сцэны» адбываецца праз манапалізацыю сродкаў масавай інфармацыі, абмежаваньне свабоды слова і перасьлед апазыцыйнай прэсы. Публіка мусіць чуць толькі адзін голас, голас свайго ўлюбёнца.

Калізіі альбо сутыкненьні розных пазыцыяў і памкненьняў ператвараюцца ў рэальную барацьбу і палітычнае зьнішчэньне апанэнтаў. Праз гэтую жорсткую барацьбу «герой» параненейшаму трымае глядзельную залю ў напружаньні.

Перамогай над палітычнымі апанэнтамі, якая, як высьвятляецца пазьней, зьяўляецца толькі часовай, завяршаецца першая дзея палітычнага спэктаклю.

Дзеяньне запавольваецца, настае так званая стабілізацыя сытуацыі. «Герой» зьяўляецца на сцэне з доўгімі маналёгамі, для якіх характэрныя вобразна-імпульсыўныя імправізацыі, якія аднак прыцягваюць увагу ня столькі шырокай публікі, колькі асобных гледачоў, якія ўжо пачынаюць нешта разумець у агульнай хадзе спэктаклю.

Спэктакль пакрысе страчвае ў сваёй відовішчнасьці. Каб зрэанімаваць сытуацыю, публіцы прапануюцца новыя «ініцыятывы» і «масавыя ўзрушаньні» кшталту рэфэрэндумаў і вялікіх карнавальных сьвяткаваньняў якіх-небудзь квазі-адметных датаў ці квазі-палітычных і квазі-гістарычных падзеяў.

Новыя сюжэтныя лініі аднак не даюць магчымасьці дасягнуць былога эфэкту — эфэкту эйфарыі еднасьці «героя» з глядзельнай заляй.

І тады «герой», нечакана для для самога сябе і ўсіх астатніх, прамаўляе нешта сутнаснае, нешта такое, што насамрэч разбурае магію тэатральнасьці, магію тэатралізаванага палітычнага дзеяньня.

Блытаючы сваё «я» са сваёй роляй, ён забываецца на тое, што ён ёсьць актор, і прамаўляе ад свайго імя: «Немецкий порядок формировался веками. При Гитлере это формирование достигло наивысшей точки. Это то, что соответствует нашему пониманию президентской республики и роли в ней президента» (А. Лукашэнка).

Тэатральнае дзеяньне дэсакралізуецца. Спэктакль страчвае ўсялякую дынаміку тэатральнасьці і працягваецца па інэрцыі. Наўгул, ён ня ёсьць ужо спэктаклем, бо мяжа ўмоўнасьці разбурана. Ад тэатральнасьці і ўмоўнасьці застаецца толькі **хлусьня**. Дзеяньне цалкам пераходзіць у пласкіню рэальнасьці. І гэтая рэальнасьць ёсьць рэальнасьцю **аўтарытарнай** улады.

Аўтарытарызм, які ўсё ж такі тэхналягічна зьвязаны з умоўнасьцю і тэатральнасьцю, не мае аднак трывалых перспектываў для свайго існаваньня; — хаця б з тае прычыны, што паводле ўсіх канонаў папулісцкага жанру гледачы ў дадатак да прапанаваных відовішчаў мусяць запатрабаваць яшчэ і хлеба.

Разбурэньне ўмоўнасьці і дэсакралізацыя тэатральнасьці ствараюць да таго ж сытуацыю, у якой далейшае выкарыстаньне папулісцкай тэхналёгіі робіцца неэфектыўным.

Людміла ГРАМЫКА

# Рэакцыя дабрыні

Мінскае тэатральнае жыццё даўно ўжо не радуе аматараў сцэны. Маленькія агеньчыкі поспеху, што зрэдку ўспыхваюць у тым ці іншым тэатры, згасаюць непапраўна хутка і карыснае тэатральнае рэчыва не паспявае выгарэць дарэшты. Новыя і яскравыя тэатральныя асобы не з'яўляюцца. Існаванне ў межах састарэлай тэатральнай мадэлі выглядае ўсё больш маркотна і пасрэдна. Ці то згубелы ўласны голас, ці то — сказаць няма чаго. Затое глеба для ўнутрытэатральных канфліктаў — усё больш урабленая. Хваля незадаволенасці тым, што і як адбываецца ў тэатры, год назад ускалыхнула купалаўцаў. Сёлета нечакана для многіх ледзь не выбухнуў ТЮГ.

Хоць, здавалася б, менавіта ў гэтым тэатры справы не такія ўжо і кепскія. Рэспубліканскі тэатр юнага гледача пакрысе вызваляецца ад інфантыльных звычак, калі юнакоў іграюць мажныя кабеты з вісклявымі галасамі. У калектыве настойліва загаварылі пра шкоду арганізаваных «культпаходаў» у тэатр — шыхтам, але з свісткамі ды гумкамі. Спектаклі для дарослых, для дзяцей і дарослых амаль разагналі хмары на тэатральным небасхіле. Вакол «Шчаслівых жабракоў», пастаўленых у мінулым сезоне маскоўскім рэжысёрам Мікалаем Шыйко, узнік амаль забыты калятэатральны ажыятаж.

Ды раптам, напярэдадні новай прэм'еры, разнесліся чуткі пра маючае адбыцца пераразмеркаванне ўлады ў ТЮГу, пра тое, што Андросіка тут «даядаюць». Агульнавядома, што менавіта ў гэтым калектыве ўнутрытэатральныя звады адбываюцца найбольш палка — не зважаючы на заслугі ды аўтарытэты. І найбольш жорстка тут абыходзяцца з рэжысёрамі, асабліва з тымі, хто наіўна падманваецца абяцаннямі творчасці.

Аднак гэтым разам усё адбылося інакш. Нават самыя заўзятыя «рэвалюцыянеры» абвесцілі пра свой няўдзел у канфлікце. А мастацкая рада большасцю галасоў і ўвогуле запатрабавала захаваць штатную адзінку мастацкага кіраўніка. У выніку «мірнага пагаднення» новы кантракт з Андрэем Андросікам быў падпісаны на два гады. Цяпер — на пасадзе галоўнага рэжысёра.

Зрэшты, разбірацца ў закулісных канфліктах — справа няўдзячная. Хоць бы таму, што інтрыга — вядучая частка тэатральнага механізма. Дый творцы, як вядома, людзі імпульсіўныя і непрадказальныя. Апроч іншага, акцёры заўжды ўдзячныя за сапраўдныя імгненні творчасці, ці хоць бы за абяцанні тых імгненняў.

Пра тое, што Андрэй Андросік ставіць глыбокі і кранальны спектакль для дзяцей, у ТЮГу казалі яшчэ з восені. Але звярнулі ўвагу на пастаноўку зусім нядаўна, у самы разгар канфлікту. Тэатральныя людзі раптам пачалі перадаваць адно аднаму: «Абавязкова паглядзіце «Маленькага лорда». І тое, што адбываецца падчас відовішча, на самой справе дзіўна.



Спектакль «Маленькі лорд Фаўнтлерой», пастаўлены паводле аповесці амерыканскай пісьменніцы Фрэнсіс Бернет (п'еса М.Воранава, пераклад А.Вольскага), адбыўся насуперак шматлікім акалічнасцям. Агульнавядома, як мізэрна фінансуюцца сёння ўсе без выключэння драматычныя калектывы. Адсутнасць сучасных тэхнічных сродкаў — яшчэ адна прычына, чаму сучасны тэатр замарудзіў сваё развіццё. Найбольш гэта тычыцца дзіцячага тэатра, галоўны глядач якога выхаваны на лепшых узорах тэхнічна дасканалай мультыплікацыі. Дадамо адсутнасць сучаснай драматургіі для дзяцей. Ды яшчэ — канфлікт у тэатры, які заўжды замінае нармальнай працы.

Як насуперак усяму узнік спектакль, пазначаны хваляй дабрыні і высакароднасці, якія літаральна перапаўняюць глядзельную залу, — застаецца таямніцай. Але пастаноўка ўражвае, апаноўвае і абяззбройвае менавіта гэтым. Гледачам прапаноўваецца просты сюжэт. Хлапчук, які сціпла жыве з беднай маці ў Амерыцы, раптам даведваецца, што ён — англійскі лорд, спадчыннік слыннага роду, адзіны ўнук свайго дзядулі. На працягу наступнай дзеі дабрыня, душэўная шчодрасць і высакароднасць хлапчука падмацоўваецца ягонымі ўчынкамі, якія ўдзячна і цёпла прымаюцца блізкімі. Так узнікае ланцуговая рэакцыя дабрыні. Ці — своеасаблівы бумеранг, бо дабрыня — вяртаецца.

Маленькага лорда іграе вучань восьмага класа 136-й мінскай школы Мікіта Гузоўскі. Ён пяшчотны, імпульсіўны, далікатны і натуральны. Асаблівай далікатнасцю і кранальнасцю пазначана праца ягоных прафесійных партнёраў Т.Жданавай, А.Жука, А.Палазкова, М.Пятрова, В.Кавалеравай.

Спектакль ідзе з двума антрактамі. І на працягу амаль трох гадзінаў дзятва ў глядзельнай зале ўважліва сочыць, як разгортваецца дзея, а пасля ладзіць авацыю і крычыць «брава». Тыя самыя дзеці, здавалася б, перакормленыя ўсялякімі «конанамі», «рабакопамі» і чортведама якімі яшчэ «тэрмінатарамі», — нашы дзеці нечакана чуйна рэагуюць на ўвасобленыя праявы высакароднасці. І гэта — сапраўднае адкрыццё спектакля Андрэя Андросіка.

«Мы жывём у жорсткі і цяжкі час, калі многія людзі, нават самыя высакалобыя, найперш ганарацца — спрытам, саромеюцца — бескарыслівасці, — гаворыць рэжысёр. — Паняцце годнасці станчэла і размылася. І штодня даводзіцца вырашаць праблему: як захаваць сябе, як не скарыцца на волю лёсу? Часам здаецца, што пачуцці добрыя ў людзях паміраюць, так і не нарадзіўшыся. І так важна загадзя думаць пра тое, што павінна ўвайсці ў душу чалавека, пакуль ён яшчэ дзіця».

Спектакль «Маленькі лорд Фаўнтлерой» хацелася б настойліва парэкамендаваць, для сямейнага прагляду. Так што бярыце дзяцей і ідзіце ў Рэспубліканскі тэатр юнага гледача.

# «Паўлінку» ўзяў Раеўскі

**Узнагарода артысту – найперш апладысменты публікі, аднак вельмі важна для кожнага і атрымаць прызнанне калегаў. З прызамі, прэміямі, дыпломамі прыходзіць адчуванне сапраўднай славы. Пра галоўныя тэатральныя прэміі Беларусі, а таксама пра тых, хто сёлета іх атрымаў, карэспандэнту НАВІНАЎ распавёў пасля ўзнагароджання старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Аляксей ДУДАРАЎ.**

*— Кожны з сёлетніх лаўрэатаў мае сапраўднае прызнанне ў публікі і крытыкаў, і, напэўна, ніхто не назаве присуд журы несправядлівым. Хто гэтыя «высокія суддзі», якія называюць імёны лепшых, прысуджаюць узнагароды?*

— Саюз тэатральных дзеячаў штогод уручае свае «крыштальныя» прэміі – гэта «Паўлінка», «Кветка», «Міжнародная Зорка» і «Агмень», якія, дарэчы, сёлета быў прысуджаны толькі ў другі раз. У нас няма спецыяльнага журы, рашэнне прымае прэзідыум рады Саюза. Праходзіць тайнае галасаванне, так што «закулісныя інтрыгі» (калі яны і ёсць) не могуць быць відомыя ні публіцы, ні нават мне. Што тычыцца «імянных» прэміяў, прысвечаных памяці знакамітых дзеячаў беларускага тэатра, то іх заснавала і прысуджае міністэрства культуры, гэтай справай займаецца спецыяльная камісія, прызначаная міністрам.

*— Калі не сакрэт, наколькі вялікія грашовыя ўзнагароды атрымліваюць лаўрэаты? І хто выдаткоўвае грошы?*

— Гэта зусім не таямніца, сёлета кожны з лаўрэатаў атрымаў ад 20 да 30 мільёнаў. А імянную стыпендыю «Тэатральная дынастыя» Саюз тэатральных дзеячаў выплачвае лаўрэатам пажыццёва, штомесяц. Гэтая стыпендыя, калі не памыляюся, мае такі ж памер, як надбаўкі «за званне», якія ў нас атрымліваюць народныя артысты. У мінулыя гады з фінансаваннем дапамагалі спонсары, але цяпер Саюзу дапамагаюць міністэрства культуры і іншыя арганізацыі, так што ўсе гэтыя грошы, фактычна, з бюджэту краіны.

*— Што важней для журы — канкрэтныя работы ў тэатры (пастаноўкі, ролі) або сама асоба будучага лаўрэата, сіла ягонага таленту?*

— Гэта залежыць ад самога прыза: «Крыштальная Кветка» прысуджаецца маладому артысту якраз за першыя паспяховыя крокі на сцэне, а «Крыштальную Паўлінку» нельга атрымаць за адну, няхай сабе і геніяльную, сцэнічную работу. Трэба працаваць у тэатры цэлае жыццё. Немагчыма стаць лаўрэатам гэтага пачэснага прыза, скажам, у трыццаць гадоў. Лаўрэаты «Паўлінкі» — самыя яркія зоркі беларускага тэатра: С.Станюта, Н.Гайда, Р.Янкоўскі, А.Клімава, Б.Герлаван, А.Саўчанка, сёлета — В.Раеўскі.

*— Значыць, каб атрымаць «Крыштальную Паўлінку», трэба дасягнуць пэўнага паважнага ўзросту? І, можа быць, на рашэнне суддзяў паўплывала тое, што Валерый Раеўскі сёлета будзе юбілярам?*

— Не, тут няма ніякага «ўзроставага цэнзу», а што да юбілею Валерыя Мікалаевіча, дык гэта шчаслівае супадзенне. Як я сказаў, рашэнні аб прызах прымаюцца без абмеркавання, негалосна. «Крыштальная Паўлінка» — знак прызнання, які можна атрымаць раз у жыцці. Няхай гэта будзе таксама падарункам выдатнаму рэжысёру на ягоны юбілей.

*— А іншыя прызы — ці можа адзін лаўрэат удастоіцца іх некалькі разоў?*

— Канешне, асабліва калі гэта «імянныя» прызы – за лепшую ролю ці пастаноўку. Дарэчы, у адрозненне ад нашых штогадовых «крыштальных», міністэрства культуры прысуджае свае прызы і прэміі раз на два гады.

*— Напэўна, працуючы ў сталіцы, лягчэй патрапіць пад увагу журы?*

— Зусім не. У Мінску сапраўды шмат добрых тэатраў, артыстаў, рэжысёраў. Аднак мы ў Саюзе тэатральных дзеячаў добра ведаем, што адбываецца і ў правінцыі. Сёлета, дарэчы, «Міжнародную Кветку» атрымаў цудоўны віцебскі тэатр «Лялька», які шмат гастралюе і нават іграе спектаклі на японскай, англійскай, нямецкай мовах — для гледачоў тых краін, дзе пабывалі артысты.

*— Тэатралы, безумоўна, ухваляць прысуджэнне адной з прэміяў выдатнаму рэжысёру Мікалаю Пінігіну. Аднак, наколькі вядома, сам лаўрэат цяпер жыве і працуе ў Расіі. Значыць, журы сваім рашэннем хацела паказаць, што Пінігін, так скажам, «не выпаў» з беларускага тэатральнага жыцця?*

— А ён і не выпаў! Пінігін пастаянна прыязджае ў Мінск, цяпер ён працуе тут над пастаноўкамі оперных спектакляў, а калі жыве ў Пецярбургу — на гэта, відаць, мае нейкія асабістыя прычыны. Ці, можа, грошы зарабляе. Я ўпэўнены: чалавек, які паставіў «Тутэйшых» і «Ідылію», не можа пакінуць Беларусь. Ён абавязкова адчуе, што павінен вярнуцца — папросту каб дыхаць тутэйшым паветрам.

*Гутарыла*
**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

***У Міжнародны дзень тэатра, 27 сакавіка, у Мінску адбылася традыцыйная цырымонія ўшанавання сёлетніх лаўрэатаў тэатральных прэміяў. Міністр культуры А.Сасноўскі і старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі А.Дудараў уручылі прызы і дыпломы рэжысёрам і акцёрам, прызнаным сёлета лепшымі ў краіне.***

# Прэміі і лаўрэаты

Бронзавыя статуэткі «Натхненне» і прэміі памяці славутых дзеячаў беларускага тэатра атрымалі:

Артыст **Сяргей Журавель**: *прэмія імя І.Буйніцкага* за ролю ў спектаклі Малога тэатра ART;

Рэжысёр **Мікалай Пінігін**: *прэмія імя Е.Міровіча* за пастаноўку гэтага ж спектакля;

Артыст оперы **Эдуард Пелагейчанка**: *прэмія імя Л.Александроўскай* за партыю Шуйскага ў спектаклі «Барыс Гадуноў» і шэраг іншых партыяў у спектаклях Беларускай оперы;

Рэжысёр **Андрэй Андросік**: *прэмія імя Л.Мазалеўскай* за пастаноўку спектакля «Маленькі лорд Фаўнтлерой» у Тэатры юнага гледача;

Драматург **Алена Папова**: *прэмія імя К.Крапівы* за п'есы «Развітанне з радзімай» (пастаноўка тэатра «Вольная сцэна») і «Пестуны лёсу» (пастаноўка Рускага тэатра).

Былі ўручаныя таксама спецыяльныя прэміі Саюза тэатральных дзеячаў:

***«Крыштальная Паўлінка»*** — за таленавітае жыццё ў тэатры — мастацкаму кіраўніку і галоўнаму рэжысёру тэатра імя Янкі Купалы **Валерыю Раеўскаму**;

***«Крыштальная Кветка»*** – за яркі дэбют — артыстцы тэатра «Вольная сцэна» **Людміле Сідаркевіч**;

***«Крыштальная Міжнародная Зорка»*** — за праслаўленне беларускага тэатра за межамі краіны — **калектыву віцебскага тэатра «Лялька»**.

Прыз ***«Крыштальны Агмень»*** і стыпендыя ***«Тэатральная дынастыя»*** былі прысуджаныя рэжысёру **Галіне Уладамірскай**.

# Лиозно кто стрелял?

## Покушение на А.Г.Лукашенко 17 июня 1994 г.

*Прокуратура Республики Беларусь*

*Справка*

*по уголовному делу о покушении на кандидата в Президенты Республики Беларусь Лукашенко А.Г.*

*настоящее уголовное дело возбуждено 17.06.1994 г. прокуратурой Витебской области в связи с заявлением Титенкова И.И., члена группы поддержки кандидата в Президенты Республики Беларусь Лукашенко А.Г. по признакам преступления, предусмотренного ст.ст. 15 ч. 2, 63 ч.1 УК РБ.*

*По указанию Прокуратуры Республики Беларусь в тот же день дело принято к производству следственным отделом КГБ РБ.*

Из заявления народного депутата Верховного Совета Республики Беларусь Титенкова И.И. усматривается, что 16 июня 1994 года примерно в 23 часа 10 минут на 24-м км автодороги Витебск—Лиозно, на границе Витебского и Лиозненского районов в автомашину «Мерседес», в которой ехал он (Титенков), кандидат в Президенты Республики Беларусь Лукашенко А.Г. и народный депутат Шейман В.В., было произведено два выстрела из обогнавшего их неустановленного автомобиля, одним из которых была повреждена левая задняя дверь автомобиля.

Осмотром автомобиля «Мерседес-Бенц» гос. номер 16-16 МИН установлено, что левая задняя дверка на высоте 84 см имеет сквозное пулевое повреждение. Из внутренней полости дверки изъята пуля калибра 7,65 мм.

Из протокола осмотра места происшествия усматривается, что на правой обочине на 24 км автодороги Витебск—Лиозно в 150 м от километражного столбика имеются следы протекторов легкового автомобиля под углом 40 градусов к осевой линии дороги.

По показаниям свидетелей Титенкова И.И. и Шеймана В.В. именно здесь был остановлен их автомобиль после обстрела.

Свидетель Тозик Д.А. показал, что 16.06.94 после 23 часов он возвращался на своей автомашине из Витебска в Лиозно. На границе Витебского и Лиозненского районов видел стоявшую на правой обочине у кювета под углом 45 градусов к нему автомашину «Мерседес» серого цвета. Возле автомашины суетились трое мужчин.

Народные депутаты Титенков И.И., Шейман В.В. и Лукашенко А.Г. показали, что из Витебска в Лиозно они ехали без сопровождения охраны со скоростью 65—70 км в час. На 24-м километре от Витебска на большой скорости их обогнала легковая автомашина иностранной марки. При обгоне послышались два выстрела. Титенков путем торможения остановил машину на обочине, а обогнавшая быстро скрылась из поля зрения за пригорком. Когда вышли из автомашины, на левой задней дверке ее обнаружили пулевое отверстие.

Возглавлявший группу охраны кандидата в Президенты Артемов показал, что 16.06.94 группа поддержки Лукашенко А.Г. вместе с охраной на нескольких автомашинах прибыли в г.Витебск. Встреча Лукашенко А.Г. с избирателями закончилась в 21 час 20 мин., затем было интервью на областном телевидении, которое закончилось примерно в 22 часа. От здания телевидения Лукашенко, Кучинский, Шейман, он (Артемов) с двумя охранниками на автомашинах «Мерседес» и «Москвич» направились на ул.Ленина. Там, возле дома № 43 Лукашенко и Шейман пересели в автомашину Титенкова. Шейман дал указание охране и всем другим членам группы поддержки ехать в Лиозно, что они и сделали.

Шейман подтвердил, что отправил охрану и членов поддержки кандидата в Президенты к избранному месту ночлега и что сами направились в Лиозно несколько позже без охраны.

Свидетели Черный В.А. и Свиридов показали, что автомашину Лукашенко, Шеймана и Титенкова они встретили на въезде в Лиозно в 23 часа 45 мин., после чего по указанию Шеймана сразу же направились в пансионат электросетей на ужин и ночлег. От Титенкова они узнали, что на дороге Витебск—Лиозно их обстреляли.

Горничная Лиозненской гостиницы Подлесная В.В. показала, что в гостинице 16.06.94 вечером поселилось несколько человек из команды кандидата в Президенты Лукашенко А.Г. В 00 час. 30 мин. приехали еще двое человек, и сказали, что их уже обстреляли. Эти двое зашли в номер к своим коллегам, побыли несколько минут и из гостиницы ушли. Утром в 7 час. они прибыли снова в гостиницу и звонили в милицию.

Артемов В.И. показал, что об обстреле машины Титенкова ему стало известно примерно в 1 час. 30 мин. 17.06.94 от Шеймана В.В., который зашел к нему в гостиницу, сообщил об этом и предложил позвонить в Лиозненский райотдел милиции. В целях обеспечения безопасности Лукашенко А.Г. он решил сообщить в РОВД утром.

Житель д.Добромыслье Бычков И.А. показал, что около 24 час., находясь в своей квартире, он услышал звук, напоминавший звук выстрела или закрывавшейся дверки автомобиля. Звук послышался от пансионата. Выглянув в окно, он никого там не увидел.

Однако никто из допрошенных в качестве свидетелей лиц, ночевавших в то время в пансионате, а также жителей д.Добромыслье не показал, что слышал звук выстрела.

**Следственным экспериментом, проведенным 17.06.94 старшим следователем по особо важным делам СО КГБ РБ Таргонским В.М. с участием главного эксперта НКЦ МВД РБ Самца А.Г., установлено, что обстрел автомашины «Мерседес», в которой ехали народные депутаты Лукашенко А.Г. и другие, из салона обгонявшей их автомашины при условиях, изложенных свидетелями Титенковым И.И. и Шейманом В.В., невозможен.**

21.06.94 по указанию Прокуратуры РБ проведен повторный следственный эксперимент с целью уточнения высоты дульного среза пистолета в момент выстрела по отношению к дорожному покрытию и левой задней дверке автомашины «Мерседес».

Эксперимент проведен с участием экспертов-баллистов МВД Республики Беларусь, НИИПКК и СЭ Минюста РБ, начальника фотограмметрического отделения в/ч-44256, народных депутатов Титенкова И.И. и Шеймана В.В.

**Данный эксперимент также подтвердил, что произвести обстрел автомашины «Мерседес» из салона обгонявшей автомашины при условиях, изложенных свидетелями Титенковым И.И. и Шейманом В.В., невозможно.**

Из заключения судебно-баллистической экспертизы, проведенной НИИПКК и СЭ Минюста РБ 24.06.94, усматривается, что повреждение левой задней двери автомобиля «Мерседес-Бенц» госномер 16-16 МИН является огнестрельным, следы близкого выстрела на участке с исследованным повреждением отсутствуют, решить вопрос, с какого расстояния произведен выстрел, не представляется возможным, пуля, изъятая из полости поврежденной двери автомобиля, выстрелена из оружия калибра 7,65 мм, к которому относятся пистолеты Беретта мод. 1915 г., Беретта мод. 1915—1917 гг., Браунинг мод. 1900 г. и мод. 1910 г., Вальман, Вальтер мод. 4 и ряд других моделей иностранного производства периода 1906—1930 гг. Следы на пуле пригодны для идентификации оружия.

Выстрел в левую заднюю дверь произведен спереди назад под углом 75—80 градусов и сверху вниз под углом 23—25 градусов по отношению к левой боковой поверхности автомобиля.



**Таким образом, следственным экспериментом, судебно-трассологической и судебно-баллистической экспертизами версия народных депутатов Титенкова И.И. и Шеймана В.В. об обстоятельствах обстрела автомобиля «Мерседес-Бенц» убедительно опровергается.**

Следственным отделом КГБ допрошено свыше 40 свидетелей с целью получения фактических данных об обстоятельствах причинения огнестрельного повреждения на двери автомобиля. Свидетельская база фактически исчерпана. Недопрошенных лиц, которые могли бы дать какую-либо информацию по данному вопросу, в поле зрения следствия не имеется.

С целью установления оружия, из которого был произведен выстрел, изъято 9 стволов огнестрельного оружия калибра 7,65 мм, по которым назначены и проводятся баллистические экспертизы. Все изъятые пистолеты зарегистрированы в установленном законом порядке. Незарегистрированного оружия среди изъятого не имеется.

Проведена проверка пули, изъятой из двери автомашины Титенкова И.И., по гильзотекам ЭКУ МВД РБ, получен отрицательный ответ.

В деле имеется протокол допроса Холоповой Е.Н., проживающей в г.Москве, аспирантки института молодежи, которая 18.06.94 собственноручно в протоколе написала, что в Минске находится у друзей и принимает активное участие в избирательной кампании. 16 июня 1994 г. в 16 час. она имела телефонный разговор со своим другом Морозовым В.И., проживающим в г.Рудня Смоленской области. В процессе разговора Морозов якобы поинтересовался, как идет предвыборная кампания в Белоруссии и обстоятельствами покушения на Лукашенко А.Г., хотя из источников массовой информации о покушении ей стало известно только 17.06.94.

Морозов В.И. допрошен, однако фактически отрицал, что задавал Холоповой вопрос о покушении на Лукашенко А.Г.

Поскольку допрос ее проведен крайне поверхностно, в Генеральную прокуратуру России 08.11.94 направлено отдельное поручение о подробном допросе Холоповой и Морозова по указанным вопросам.

В августе в качестве свидетелей допрошены сотрудницы Лиозненской редакции газеты «Сцяг перамогі» Бегунова Е.А. и Похолкина Л.В., что они в конце июня с.г. по служебным делам из Лиозно ездили в Витебскую областную типографию. Обратно возвращались на попутной автомашине «Жигули» красного цвета со смоленскими номерами. Автомашина была оборудована радиотелефоном. Водитель и находившийся там пассажир в разговоре о покушении на Лукашенко А.Г. сказали, что имеют к этому акту непосредственное отношение. Водитель при этом показал свое удостоверение сотрудника федеральной службы контрразведки России.

В связи с этим СО КГБ РБ направлены отдельные поручения в федеральную службу контрразведки Российской Федерации по Смоленской и Брянской областям с просьбой произвести проверку по установлению лиц, имеющих отношение к покушению.

К установлению обстоятельств покушения подключены также оперативные подразделения КГБ РБ.

Другая работа, в том числе следственная, по делу фактически не проводится.

По делу даны письменные указания, направленные на активизацию следствия, полное выяснение всех обстоятельств дела.

*Прокурор отдела по надзору за исполнением закона о национальной безопасности старший советник юстиции*
**Г.И.Миксюк**

---

СТАРЫ АЛЬБОМ



*Мінская плошча Свабоды да рэканструкцыі ў 1950-60-х гадах.*

# Даты і лёсы

## 2 красавіка

**1794.** У Францыі была заснаваная першая ў свеце авіякампанія *Aerostiers*, якая займалася выведкай з паветраных шароў для патрэбаў рэвалюцыйнага войска.

**1941.** У Германіі адбыліся паспяховыя выпрабаванні першага ў свеце рэактыўнага знішчальніка Не-280, пабудаванага фірмай «Хейнкель».

**1958.** У штаце Тэхас было зарэгістраванае тарнада, якое мела рэкордную хуткасць 450 км/г.

**1964.** Брытанскі (а праз два дні і амерыканскі) хіт-парад узначаліла знакамітая песня «Бітлз» *Can't Buy Me Love* («Каханне не купіш»).

**1996.** Ельцын і Лукашэнка падпісалі Дагавор аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі.

**1997.** У штаце Каларада 32-гадовы пілот амерыканскага бамбардзіроўшчыка А-10 К.Бартан скончыў жыццё самагубствам, накіраваўшы самалёт на скалы. Перад гэтым ён невядома дзе скінуў 4 бомбы.

## 3 красавіка

**1922.** Сталін быў абраны генеральным сакратаром ЦК ВКП(б).

**1924.** Нарадзіўся выбітны амерыканскі кінаакцёр Марлон Брандо. У знак пратэсту супраць карыкатурнага паказу індзейцаў у галівудскіх вестэрнах адмовіўся ад другога «Оскара», які прысудзілі яму за галоўную ролю ў фільме «Хросны бацька».

**1932.** Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР быў перaўтвораны ў наркамат лёгкай прамысловасці, а прадпрыемствы цяжкай, дрэваапрацоўчай і папяровай прамысловасці былі падпарадкаваныя Маскве.

**1991.** На буйнейшых прадпрыемствах Мінска пачаўся страйк супраць павышэння цэнаў. Утварыўся гарадскі страйкам, які выставіў эканамічныя і палітычныя патрабаванні да ўрада. Страйкі і мітынгі паўтарыліся 10—11 і 23—24 красавіка.

## 4 красавіка

**1794.** Паўстанцы Тадэвуша Касцюшкі разбілі пад Рацлавічамі (на поўнач ад Кракава) корпус расійскага генерала Аляксандра Тармасава. У гэтай бітве праславіліся касінеры (сяляне, узброеныя косамі): яны атакавалі цэнтр расійскіх пазіцыяў і захапілі 11 гарматаў.

**1904.** Вялікабрытанія і Францыя падпісалі дамову пра «Сардэчную згоду» (Антанту), да якой потым далучылася і Расія. У гэты ж дзень у **1949** г. быў створаны ваенна-палітычны саюз *NATO*, які абвесціў сваімі мэтамі «захаванне міру і бяспекі, а таксама развіццё стабільнасці і дабрабыту ў рэгіёне Паўночнай Атлантыкі».

**1905.** Землятрус разбурыў індыйскі горад Кангру. Загінулі 19 тысяч чалавек, у тым ліку 2 тысячы пілігрымаў, што маліліся ў храме. Дакладна праз год чарговае вывяржэнне вулкана Везувій забіла каля тысячы чалавек, 105 з іх знайшлі смерць у саборы мястэчка Сан-Джузепе, дзе шукалі паратунку ад дажджу камянёў з неба.

**1919.** Трэці Мінскі полк ГубЧК пасля чатырох дзён баёў задушыў антыбальшавіцкае паўстанне жыхароў мястэчка Мір, на бок якіх перайшоў Слуцкі зборны батальён.

**1933.** Каля ўзбярэжжа штата Нью-Джэрсі разбіўся і патануў гіганцкі амерыканскі дырыжабль-авіяносец «Акрон», даўжыня якога перавышала 200 м. У халоднай вадзе загінулі 73 чалавекі, удалося ўратаваць толькі трох.

**1979.** У Пакістане быў пакараны смерцю на шыбеніцы былы прэзідэнт краіны Зульфікар Алі Бхута, абвінавачаны ў арганізацыі забойстваў лідэраў апазіцыі.

## 5 красавіка

**1874.** У Вене адбылася прэм'ера аперэты Ёгана Штрауса «Жанчына-кажан».

**1919.** Полк С.Булак-Балаховіча захапіў горад Гдоў Пскоўскай губерні. Балахоўцы вызвалілі 500 чалавек з сутарэнняў мясцовай ЧК і павесілі камісара Нікіціна, які раней прызначыў за галаву беларускага генерала ўзнагароду ў мільён рублёў.

**1920.** У гадавіну аднаго з ранейшых паўстанняў ірландцы падпалілі 120 пастарункаў брытанскай паліцыі і 22 падатковыя інспекцыі.

**1975.** Неўзабаве пасля старту з Байканура ўпаў у Манголіі савецкі касмічны карабель «Саюз-18-1», у якога не спрацавала трэцяя ступень ракеты-носьбіта. Касманаўты В.Лазараў і А.Макараў цудам засталіся жывыя: парашут зачапіўся за дрэва, што расло над прорвай у гарах. Па інструкцыі пасля прызямлення парашут трэба было адстрэліць, але Лазараў інтуітыўна не зрабіў гэтага. Касманаўты віселі над прорвай, пакуль іх не знялі верталёт.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

